



# Рэгіянальная газета

3 мая 2013 года
№ 18 (940)

Тэлетыдзень

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




# З Вялікаднем!

навіны рэгіёна

## Смаргонь прыме міжнародныя спаборніцтвы

**СМАРГОНЬ.** Лёгкаатлетычны турнір"Дружба-2013" пройдзе 3 і 4 мая на гарадскім стадыёне. Традыцыйныя спаборніцтвы прысвечаныя памяці **Станіслава Барташэвіча**. Удзел у іх возьмуць навучэнцы 1998 года нараджэння і маладзейшыя. У Смаргонь з'едуцца спартсмены з Польшчы, Літвы, Украіны і Расіі. Змагацца за першае месца будзе і каманда Маладзечанскага раёна.

## Алкаголь прадаюць да 21.00

**МІНШЧЫНА.** Па рашэнні райвыканкама ад пачатку мінулага тыдня алкаголь не прадаюць з 21.00 да 9.00. Прынятае рашэнне каментуе намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Наталля Нікіценка**: "Гэта рэкамендавана планам працы аблвыканкама па барацьбе супраць алкагалізму. Аб гэтым прасіла МУС. І такое рашэнне тычыцца ўсіх раёнаў Мінскай вобласці".

## Нацыянальны фестываль пройдзе ў чэрвені

**МАЛАДЗЕЧНА.** Пачалася падрыхтоўка да Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2013". Па рашэнні аргкамітэта ў гэтым годзе ён пройдзе 7 і 8 чэрвеня. "Да таго ж будзе свята і на трэці дзень, бо 9 чэрвеня пройдзе рэгіянальны фестываль "Адна зямля", – кажа начальнік аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Рамановіч**. Фестываль песні і паэзіі сёлета лічыцца юбілейным. Ён прысвечаны 20-годдзю заснавання фестывалю. Першы прайшоў у 1993 годзе на маладзечанскім стадыёне. Фестываль прымеркаваны і да 75-годдзя Мінскай вобласці, а таксама да 625-годдзя горада Маладзечна.

## У астравецкай краме гарэла гандлёвая зала

**АСТРАВЕЦ.** Пажар здарыўся ў суботу, 27 красавіка, каля паловы другой ночы. У краме спрацавала ахоўная сігналізацыя, таму спачатку на месца здарэння выехалі супрацоўнікі міліцыі. Пабачыўшы ўнутры агонь, яны паведамілі свайму дзяжурнаму, які выклікаў МНС. Як аказалася, гарэла гандлёвая зала кулінарнага камбіната. Пра здарэнне паведаміў інспектар групы прапаганды і навучання Астравецкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Шыць**.

## Адкрываецца фотавыстава пра Вілейшчыну

**ВІЛЕЙКА.** У зале выстаў імя Сіліврановіча краязнаўчага музея 8 мая а 17-й гадзіне адкрываецца выстава "Вілейшчына на фотаздымках Віталя Раковіча". Аб гэтым нашаму выданню паведаміла старшы навуковы супрацоўнік музея **Вольга Коласава**. **Віталь Раковіч** – удзельнік і лаўрэат конкурсаў у Беларусі і за яе межамі.

Аддзел інфармацыі.

# "РГ" паказала 1 Мая ў прамым эфіры



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Першыя паездкі на новым экстрэмальным атракцыёне "Зігзаг" у маладзечанскім гарадскім парку трансляваліся наўпрост.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Адразу пасля ўключэння фантана.

**МАЛАДЗЕЧНА. Першага мая ў Маладзечне запрацавалі фантаны і атракцыёны ў гарадскім парку, у тым ліку новы "Зігзаг".**

Усе гэтыя падзеі наведнікі нашага сайта rh.by бачылі ў прамым эфіры: "РГ" рабіла першыя анлайн-відэарэпартажы.

Калі ўключалі фантан ля скульптуры "Залатая папараць", то гараджане вялі адваротны адлік да ўключэння. Фантан запрацаваў за дзве секунды да каманды "Пуск".

Ахвотных пакатацца на новым атракцыёне "Зігзаг" было столькі, што адміністрацыі даводзілася рабіць тэхнічны перапынак, каб не рызыкаваць бяспекай. Карэспандэнт "РГ" пракацілася на новым атракцыёне і здымала ўсё гэта. Паглядзець відэа вы можаце на нашым сайце.

### Парк зарабіў больш, чым летась

Як паведамілі ў парку, здавалася, што ахвотных пакатацца на атракцыёнах было менш, чым летась. Аднак парк атрымаў большы прыбытак, хаця цэны з мінулага года не павялічвалі.

Па папярэдняй ацэнцы, на атракцыёнах 1 мая пакаталася каля дзвюх тысяч чалавек. Наведнікі прыходзілі цягам дня.

### Як працуе парк

Парк па суботах, нядзелях і святочных днях працуе ад 10 да 21 гадзіны. Па серадах, чацвяргах і пятніцах – ад 13 да 20 гадзін. Панядзелак і аўторак – выхадныя.

"РГ" будзе працягваць працу ў прамым эфіры. Наступныя анлайн-рэпартажы мы плануем правесці 9 і 13 мая. За навінамі сачыце на сайце.

Зоя ХРУЦКАЯ.

ТАПАНІМІКА

# Запрашаем у аграгарадок Гарадок!

## Як не дапускаць недарэчнасці ў шыльдах

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхарам горада, якія апошнія некалькі тыдняў маглі прапанаваць свае назвы для 21 вуліцы Маладзечна, карысна было паслухаць лекцыю старшыні беларускага добраахвотнага Таварыства аховы помнікаў, гісторыі і культуры Антона Астаповіча.**

На сустрэчы, якая прайшла ў чацвер, 25 красавіка, маладзечанцы абмяркоўвалі тое, як назвы, якія нас атачаюць, уплываюць на станаўленне да нацыянальнай культуры.

Спадар Антон адзначыў, што ў Беларусі цяпер налічваецца 5 500 аб'ектаў, якія маюць статус гісторыка-культурных каштоўнасцяў. У іх лік уваходзяць не толькі архітэктурныя збудаванні, але і набыткі культуры: напрыклад, народныя абрады.

– Пры гэтым ад намесніка прэм'ер-міністра Беларусі Анатоля Тозіка паступіла прапанова скараціць гэты спіс, – зазначыў Антон Астаповіч.

**Пад аховай дзяржавы знаходзяцца шэсць помнікаў Леніну. Усе яны набылі гэты статус дзякуючы імёнам аўтараў – напрыклад, Заіру Азгуру ці Анатолю Анікейчыку.**

У суседняй Польшчы, якая ўтрая большая за Беларусь, такі статус маюць больш за 67 тысяч адзінак.

### Вілейская суполка – узорна-паказальная

У справе захавання гісторыка-культурнай спадчыны надзвычай важную ролю адыгрываюць менавіта мясцовыя суполкі Таварыства аховы помнікаў. Антон Астаповіч ацаніў дзейнасць суполак у нашым рэгіёне.

Вілейскую суполку, кіраўніком якой з'яўляецца **Дзяніс Канецкі**, ён назваў узорна-паказальнай. Дзейнасць мядзельскай і маладзечанскай блізкая да нуля. Падобная сітуацыя ў Ашмянах і Смаргоні – там суполкі практычна не існуюць.

На Валожыншчыне добраахвотная дзейнасць існуе дзякуючы намаганням **Алеся Белага**. У Астраўцы суполцы дапамагае **Алесь Юркойць**, але з-за будаўніцтва ў раёне атамнай электрастанцыі ўся ўвага мясцовага насельніцтва пераключылася на іншыя праблемы.

### Захаваць помнік можа кожны

Любы гістарычны будынак, нягледзячы на свой узрост і вартасць, можа быць зруйнаваны, калі ён не мае статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці. Кожны зацікаўлены чалавек можа падаць прапанову на наданне такога статуса. Для гэтага неабходныя наступныя дакументы:

1) Схематычны план размяшчэння будынка, на якім відаць навакольныя пабудовы.

2) Некалькі фотаздымкаў фармату 10 на 15 см, якія дапамогуць ацаніць яго знешні выгляд з розных бакоў.

3) Тлумачальная запіска, якая абгрунтоўвае неабходнасць надання статуса.

Дакументы трэба дасылаць у Міністэрства культуры.

Важна памятаць, што ўвесь час разгляду заявы, які можа расцягнуцца на некалькі месяцаў, аб'ект часова лічыцца помнікам культуры і знаходзіцца пад абаронай дзяржавы.

**Важна не толькі дбаць пра захаванне помнікаў, але і пра афармленне іх юрыдычнага статуса. Так, камень "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі", які з'явіўся ў Маладзечне пры Генадзю Карпенку, падчас падрыхтоўкі да "Дажынак" законна мог быць выкінуты на сметнік. А ўсё таму, што гаспадар не паставіў яго на баланс.**

### Шыльды павінны ствараццца з розумам

– Вядома, і мова, і літаратура адыгрываюць важную ролю ў жыцці чалавека, – гаворыць Антон Астаповіч. – Але ж чалавек фарміруецца і ў візуальным асяродку, таму варта зважаць і на архітэктуру, і на назвы. Наш так званы "аграглямур" забівае ўсё візуальнае. Змяняецца нават культурны ландшафт у тэрмінах. Модна стала называць усё аграгарадкамі. А чаму не назваць мястэчкам? На Маладзечаншчыне смешная сітуацыя была – на шыльдзе нейк было напісана "Аграгарадок Гарадок". Потым, праўда, яе замянілі.

Недарэчнасці сустракаюцца не толькі ў шыльдах, але і на помніках. У прыватнасці, на мемарыяле партызанскай базы ля вёскі Талуць Вілейскага раёна ёсць надпіс аб тым, колькі ахвяраў пахавана на гэтым месцы. Сярод такіх нацыянальнасцяў, як беларусы, рускія, палякі, пазначаны і наступныя: "прочие – 2 человека".

– У 1995 годзе гэта было маё геаграфічнае адкрыццё, – усміхаецца спадар Антон. – Я адкрыў новы народ – "прочие"!

Дзіўнае з'яўляецца не толькі ў надпісах. Некаторыя аб'екты атрымліваюць і "народныя" назвы.

**Як расказаў Антон Астаповіч, толькі ў Маладзечне ёсць помнік "жонцы Бэтмана" – так называюць стэлу на ўездзе ў горад.**

– Такую назву я чуў нават ад высокапастаўленых чыноўнікаў, якія прыязджалі на "Дажынкі", – падкрэсліў старшыня таварыства.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Старшыня беларускага добраахвотнага Таварыства аховы помнікаў, гісторыі і культуры Антон Астаповіч.





# Камент-эксперт



**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Што думаюць жыхары Маладзечна пра новыя назвы вуліц?

**Навіна пра тое, што гараджане могуць самі прапаноўваць назвы вуліц, выклікала актыўнае абмеркаванне ў інтэрнэце. На сайце "Рэгіянальнай газеты" наведнікі цягам тыдня дзяліліся сваімі меркаваннямі. Вось некаторыя з іх:**

Напэўна, і прозвішчы Касцюшка, Каліноўскі, Агінскі, Міцкевіч не вартыя таго, каб імі называлі вуліцы нашых гарадоў, у адрозненне ад Пушкіна, Гогаля, Талстога і іншых рускіх дзеячаў? Беларусы, дзе наша годнасць? ***Сяргей.***

Адну з вуліц трэба назваць у памяць аб Генадзю Карпенку. ***Ihar.***

Карпенка. ***Дзед.***

Я лічу, што Маладзечаншчына – гэта ўся былая воблась, якая вельмі цесна звязаная паміж сабой гісторычна. І ў нашым рэгіёне шмат знакамітасцей, якія знаходзяцца ў забыцці, але, на маю думку, яны заслугоўваюць ушанавання іх памяці. Вось яны: **Вінцэнт Козел-Паклеўскі**, загінуўшы пад вёскай Уладзкі 16(28).05.1863 года, аддаўшы сваё жыццё ў 26-гадовым узросце за волю і незалежнасць роднай нашай БЕЛАРУСІ. **Яраслаў Лапіцкі** – 22-гадовы юнак з вёскі Касута, быў расстраляны 28 кастрычніка 1950 года сталінскім крывавым рэжымам за створаную ім моладзевую падпольную арганізацыю, якая распаўсюджвала лістоўкі, скіраваныя супраць Сталіна і бальшавіцкай улады.

Такім чынам яны змагаліся за волю і незалежнасць КРАІНЫ. **Пётра Сыч** – (18 студзеня 1912 – 20 чэрвеня 1963) нарадзіўся ў вёсцы Батурына. Пісьменнік, мемуарыст. Напачатку Другой сусветнай вайны ў 1939 годзе Пётру Сыча мабілізавалі ў польскае войска. Патрапіў у савецкі палон у Ашмянах, але здолеў уцячы. Пазней быў арыштаваны бальшавікамі й пасаджаны ў Вілейскую турму, пасля пераведзены ў Полацк, дзе і атрымаў прысуд – 10 гадоў лагера. Быў сасланы ў лагер у Комі. У верасні 1941 года на падставе дамовы Сікорскага-Майскага як польскі грамадзянін Пётра Сыч быў перакінуты спачатку ў Надволжа, потым у Самарканд, дзе стваралася польская армія генерала Уладзіслава Андэрса. Пётра Сыч, як і тысячы іншых беларусаў з Заходняй Беларусі, далучыўся да войска польскага генерала. Пётра Сыч браў удзел у кровапралітных баях пад Монтэ Касіна, у якіх загінула вельмі шмат беларусаў, пра што бальшавікі замоўчвалі. Пра перажытае пад Монтэ Касіна Пятро Сыч наважыўся распавесці толькі напрыканцы жыцця ў кнізе "Смерць і салаўі". Быў чатыры разы паранены. Узнагароджаны ўзнагародамі розных краін: брытанскімі – Зоркай Італіі, Зоркай 1939-1945, Медалём вайны 1939-1945 і Медалём Абароны, польскімі – Крыжам Монтэ Касіна 45039, Медалём Войска, Ганаровай адзнакай за раненні. Толькі на Радзіме Герояў-Беларусаў за пралітую кроў супраць фашызму чакалі зусім іншыя "ўзнагароды", сталінскія лагеры.

Браты **Баляслаў** і **Восіп Адамовічы**, якія былі першаадкрывальнікамі паветранага шляху з Амерыкі у Еўропу праз паўночную Атлантыку на аматарскім самалёце ў 1934 годзе. Не Чкалаў, як нам усім тлумачыла бальшавіцкая прапаганда, а менавіта нашы землякі з Альковічаў зрабілі гэты першы пералёт! Няўжо вось гэтыя прозвішчы не заслугоўваюць вяртання з нябыту і ўшанавання іх памяці!? Лічу, што яны заслугоўваюць нават помнікаў! А **Анатоль Рогач** ды **Міхась Чарняўскі**, хіба мала за сваё жыццё здзейснілі, каб іх памяталі?! Шмат!!! ***Алесь Раткевіч.***

Згодзен з Алесем Раткевічам! Трэба аднаўляць Вялейскую вобласьць!!!:-) ***Tambouski vouk.***

"Няўжо вось гэтыя прозвішчы не заслугоўваюць вяртання з забыцця і ўшанавання іх памяці!?" Рытарычнае пытанне. Калі вуліцам давалі цяперашнія назвы, Беларусь была ў складзе Расіі, якую тады называлі Савецкі Саюз. Таму і героі былі расійскія. ***I. Z.***

Вул. Генадзя Карпенкі. ***Den.***

Вуліца па новай дарозе (як яе называюць, Праектуемая) так і просіць назву Дажыначная))) Не было б Дажынак, ніякія Герасіменка-Жызнеўскі з Селяхам-Качанскім не пабудавалі б яе. ***Meci.***

Спадарства, вы б насамрэч напісалі свае прапановы на паперы і даслалі ў ідэалогію. (Лепш на паперы і заказным лістом, а не праз мейл, тады не выкінуць) І хоць нашы лісты ні на што не паўплываюць, але хай хоць тыя ідэолагі ведаюць, якія рэальныя настроі ў людзей. ***Tambouski vouk.***

Адказ павінны даць і на электронны зварот. Пачакаем. Пабачым. Хочацца спадзявацца, што абмеркаванне новых назваў вуліц будзе пад кантролем СМІ. ***Алесь Раткевіч.***

СПАЖЫВЕЦ

# Як выбраць найлепшую каву?

**МАЛАДЗЕЧНА. На харчовы рынак з розных куткоў свету да нас паступае мноства відаў кавы. Купляючы яе, мы часта губляемся ў выбары, бо на прылаўках шмат розных упаковак з рознай кавай.**

Вядома, распазнаць смак кавы можна, толькі пакаштаваўшы яе, але гэта проста нерэальна пры набыцці.

Ды і выбар паміж той ці іншай кавай можна зрабіць толькі ў параўнанні. Купляючы каву, варта арыентавацца на некаторыя дэталі: кошт, упакоўка, вытворца, знешні выгляд, тэрмін прыдатнасці.

Асноўную ўвагу варта звярнуць на ўпакоўку: самай лепшай лічыцца вакуумная. Таксама паглядзіце, з якога яна матэрыялу: найбольш прыдатнай для добрай кавы прызнанае шкло, а вось да кавы ў пластыкавых упакоўках варта ставіцца асцярожна.

– Самыя буйныя сусветныя краіны, якія пастаўляюць каву, – пераважна трапічныя, – кажа прадавец **Вольга Немкаловіч**. – Прывозяць яе з краін Цэнтральнай і Лацінскай Амерыкі, Азіі, Афрыкі.



Карэспандэнтка “РГ” Аляксандра Парахня ў адной з кавярняў Германіі.

Фота забяспечана Аляксандрай ПАРАХНЁЙ.

### Абсмажванне

Асартымент кавы вельмі вялікі. Яна адрозніваецца і па ступені абсмажвання, і па ступені памолу.

Самыя распаўсюджаныя ступені абсмажвання кавы – венская, французская і італьянская.

Спадарыня Вольга распавяла, чым яны адрозніваюцца адна ад адной.

Венскае абсмажванне самае лёгкае. Кава смажыцца пры тэмпературы 170 градусаў, пасля чаго дае мяккі смак і больш падыходзіць на сняданак. Да яе падыходзіць малако ці вяршкі. Колер такога зерня – карычневы.

Французскае абсмажванне больш моцнае, чым венскае. Тэмпература – каля 200-230 градусаў. Зярняты маюць цёмна-карычневы колер і надаюць каве гарчынку.

Італьянскае абсмажванне самае моцнае. Зярняты абсмажваюцца пры тэмпературы 245 градусаў і пакрываюцца алеем, становяцца вельмі цёмнымі. А сама кава набывае смак гарачага шакаладу.

### Памол

Кава адрозніваецца і па памоле. Яна бывае тонкага, сярэдняга і буйнога памолу.

Тонкі памол больш падыходзіць для заварвання кавы ў турцы ці ў кубку.

Кава сярэдняга памолу больш падыходзіць для гейзерных і капельных кававарак.

Буйны памол – для машын, якія гатуюць экспрэса, папулярны від кавы.

### Самая дарагая кава аддае парэчкамі

– Адрозніваецца кава і па кошце, – кажа спадарыня Вольга. – Напрыклад, самая дарагая кава на прылаўках маладзечанскіх крам – з Кеніі. Яна мае прысмак чорных парэчак. Каштуе такая кава каля 60 тысяч рублёў за 100 грамаў.

Дарагую каву прывозяць з Мексікі. Яна буйнога памолу, аддае кіслінкай. Кава каштуе 55 тысяч рублёў за 100 грамаў.

Папулярнасцю карыстаецца кава з Коста-Рыкі – французскага абсмажвання, зярняты тлустыя, а прысмак з кіслінкай.

### Як змешваць каву

Арыгінальная нераспушчальная кава каштуе 35 тысяч рублёў за сто грамаў. Прадаецца на вагу. Падзеленая яна па днях тыдня: напрыклад, кава для панядзелка больш лёгкая, з кіслінкай, а для пятніцы – з прысмакам чарнасліву і рому.

– Каб кава была менавіта такой, якой вы хочаце, яе можна змешваць з рознымі відамі, – кажа спадарыня Вольга. – Напрыклад, каб быў прысмак віна, трэба змяшаць каву з Кеніі, Эфіопіі і Калумбіі. Для ўзмацнення смаку змяшайце каву з Індыі, Папуа Новай Гвінеі, Бразіліі і Сальвадора.

Для таго, каб кава была моцнай і густой, з гарчынкай, трэба змяшаць каву з Гватэмалы французскага абсмажвання, Коста-Рыкі, Нікарагуа, Уганды і Перу.

### Маладзечанцы любяць каву з дадаткамі

Вольга Немкаловіч распавяла, што вялікай папулярнасцю сярод маладзечанцаў карыстаецца кава з водарам шакаладу, ванілі, тэрамісу (пірожнае такое).

Каву звычайна купляюць па 100 грамаў. Пастаянныя пакупнікі могуць на ўсялякі выпадак патэлефанаваць і папрасіць пакінуць ім кавы, каб яе не раскупілі.

– У падарунак людзі купляюць розную каву, – кажа спадарыня Вольга. – Для яе ёсць спецыяльныя прыгожыя ўпакоўкі. Звычайна дораць два пакеты. Адзін з кавай, другі з чаем, і змацоўваюць іх разам.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Некалькі кававых парад

1. Ніколі не заварвайце каву кіпенем! Вада, тэмпература якой вышэй за 93 градусы, абпальвае каву і знішчае сапраўдны водар.

2. Імкніцеся купляць каву ў зярнятах. Загадзя змолатая кава ад паветра акісляецца і негатыўна ўплывае на смакавыя якасці.

3. Абмяжоўвайцеся ўжыванне цукру – цукар забівае смак кавы. Замяніце цукар чымнебудзь салодкім.

4. Не піце каву на галодны страўнік – кава актыўна раздражняе слізістую страўніка і кішэчнік.

5. Піце каву з малаком – малако звязвае частку кафеіну і змякчае яго ўздзеянне на арганізм.

6. Захоўвайце каву ў шчыльна закрытай упакоўцы, у цёмным сухім месцы. Імкніцеся купляць свежаабсмажаную каву. Не купляйце адразу шмат кавы. Купляйце яе з разлікам на 10-14 дзён.

Эксперыментуйце! Шукайце новы смак і спалучэнні кавы.

| Курсы валют НБ РБ | 25.04 руб. | 2.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 8 650,00 | **8 670,00** |
| Еўра | 11 230,00 | **11 330,00** |
| Злоты | 2 719,01 | **2 736,57** |
| Літ | 3 262,49 | **3 283,90** |
| Расійскі рубель | 274,00 | **279,50** |
| Грыўня | 1 063,96 | **1 068,39** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8620/8670 | **8640/8690** |
| Еўра | 11200/11270 | **11280/11360** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 24.04 | 30.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 116150 | **114600** |
| Сасіскі, 1 кг | 42450 | **43500** |
| Свініна, лапатка, 1кг | 58500 | **58500** |
| Ялавічына, кумпяк, 1 кг | 85000 | **85000** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 22950 | **23500** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 32400 | **32700** |
| Селядзец, 1 кг | 20500 | **20500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 85000 | **85000** |
| Рыс, 0,9 кг | 9900 | **9700** |
| Грэчка, 0,9 кг | 9300 | **9300** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 11000 | **11000** |
| Алей | 15200 | **15500** |
| Маянэз, 200 г | 5300 | **5300** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 7200 | **7200** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 28000 | **28000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 8900 | **8900** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 3500 | **3500** |
| Капуста, 1 кг | 7000 | **11500** |
| Морква, 1 кг | 7800 | **10000** |
| Буракі, 1 кг | 5500 | **5300** |
| Лімоны, 1 кг | 19500 | **19500** |
| Апельсіны, 1 кг | 18000 | **13000** |
| Мандарыны, 1 кг | 22000 | **24000** |
| Памідоры, 1 кг | 18000 | **19000** |
| Агуркі, 1 кг | 18000 | **19000** |
| Перац, 1 кг | 33000 | **30000** |
| Вінаград, 1 кг | 30000 | **27000** |
| Бананы, 1 кг | 13000 | **12500** |
| Яблыкі, 1 кг | 7500 | **7500** |
| Грушы, 1 кг | 21000 | **22000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 12000 | **10000** |
| Масла, 1 кг | 75000 | **-** |
| Тварог, 1 кг | 40000 | **45000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 17000 | **17000** |
| Сала, 1 кг | 58000 | **58000** |
| Бульба, 5л | 10000 | **10000** |
| Мёд, 1 кг | 60000 | **50000** |

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Аштрафавалі яшчэ аднаго самагоншчыка

**МАЛАДЗЕЧНА. Раніцай 24 красавіка на Маладзечаншчыне ў вёсцы Яхімоўшчына ў гаражы знайшлі самагонны апарат, брагу ды саму самагонку.**

Усё гэта належыць 55-гадоваму гаспадару гаража.

Яму далі штраф два мільёны рублёў і канфіскавалі апарат, 2120 літраў брагі ды 20 літраў самагонкі.

Канфіскаваную самагонку перадалі на захаванне ў Маладзечанскі РАУС.

Брагу знішчылі, а самагонны апарат дэмантавалі і вывезлі для ўтылізацыі.

Пра здарэнне расказаў начальнік маладзечанскай міліцыі грамадскай бяспекі **Аляксандр Кісель**.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Ледзь не задушылі таксіста

**МАЛАДЗЕЧНА. Учора двое маладзечанцаў звязалі 27-гадовага таксіста, хацелі яго задушыць, але даведаўшыся, што ў таго малое дзіця, зжаліліся і адпусцілі.**

У ноч на 28 красавіка таксіст стаяў на прывакзальнай плошчы і чакаў сваіх кліентаў. У 00.30 да яго падышлі два маладзёны. Яны папрасілі падвезці да вёскі Лебедзева. Таксіст адразу назваў свой кошт – 100 тысяч рублёў, але ў выніку хлопцы старгаваліся на 85 тысяч.

Таксіст пагадзіўся, усе селі і паехалі. На месцы ж аказалася, што грошай у іх няма. Маладыя людзі збілі яго, звязалі і забралі 200 тысяч рублёў ды залаты пярсцёнак. Пачалі душыць кіроўцу, а той стаў прасіцца, што ў яго сямімесячнае дзіця застанецца сіратой.

Адзін са зладзеяў зжаліўся. Таксіста развязалі і высадзілі ў раёне вёскі Маркава. Самі ж паехалі далей на яго машыне.

У 3.30 кіроўца дабраўся да міліцыі.




Зладзеі зжаліліся над таксістам, калі той сказаў пра сваё сямімесячнае дзіця.

ДАІ ўвяло план "Перахоп" і ў 4.30 маладзёнаў затрымалі. Аднаму з іх 28 гадоў, а другому – 23.

Цяпер узбуджаная крымінальная справа па артыкуле "Рабаванне".

Пра здарэнне расказаў намеснік начальніка маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта **Сяргей Вайтовіч**.

### Падрабязнасці здарэння

Падрабязнасцямі з "РГ" дзеліцца следчы па асабліва важных справах Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Марына Рагінская**.

Таксіст – індывідуальны прадпрымальнік. Звычайна ён пачынае працаваць увечары, бо ў яго маленькае дзіця і жонка. Так было і на гэты раз.

Калі ён прывёз маладзёнаў у Лебедзева, яны папрасілі заехаць за нейкай дзяўчынай. Калі пад'ехалі да патрэбнага дома, яна не выйшла.

Тады маладыя людзі папрасілі забраць яе з клуба. Там яе таксама не аказалася.

Таксісту надакучыла вазіцца з хлопцамі, і ён папрасіў іх заплаціць. У гэты момант яны хітра пераглянуліся: адзін з іх накінуўся на кіроўцу ды пачаў душыць. Другі патрабаваў, каб таксіст сказаў, дзе ў яго ляжаць грошы. Той ім аддаў усе, якія ў яго былі.

Аднак на гэтым зладзеі не спыніліся. У кіроўцы забралі тэлефон ды выкінулі яго ў акно.

Потым кіроўцу прымусілі даць распіску, што яны могуць спакойна карыстацца яго аўтамабілем увесь дзень 28 красавіка.

Атрымаўшы ўсё, што ім трэба было, таксіста выкінулі з машыны, а самі паехалі далей.

Кіроўцу ўдалося злавіць спадарожную машыну. Сеўшы, ён зразумеў, што сам патрапіў у таксі.

Калега давёз яго да міліцыі, якая і затрымала зладзеяў.

Адзін з іх ужо быў асуджаны за крадзеж, а другі – за кіраванне ў нецвярозым стане.

**Настасся РОЎДА, Вольга ЮРКЕВІЧ.**



ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Сутыкнуліся два грузавікі

**ВІЛЕЙКА. 27 красавіка каля вёскі Забор'е ў Вілейскім раёне сутыкнуліся два грузавыя аўтамабілі ГАЗ-66.**

Паведамленне аб дарожна-транспартным здарэнні паступіла каля 9.30 ад відавочцы.

Сутыкненне двух грузавых аўтамабіляў, якія перавозілі дровы, адбылося на восьмым кіламетры аўтадарогі Хаценчыцы–Радашкавічы. Па папярэдняй інфармацыі, адзін з аўтамабіляў выехаў на паласу сустрэчнага руху.

З дапамогай гідраўлічнага інструменту з адной машыны выратавальнікі вынялі 45-гадовага кіроўцу, з другой – двух чалавек (40-гадовага кіроўцу і яго бацьку).

Пацярпелыя дастаўленыя ў бальніцу з дыягназамі пераломаў ног, удараў цела.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## У п'янай жанчыны двойчы ўкралі залатыя пярсцёнкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Дама прывяла да хаты двух знаёмых, каб выпіць гарэлкі. Пасля чаго ў яе прапалі тры залатыя пярсцёнкі, ланцужок, бранзалет і завушнічкі.**

Пярсцёнкі ў жанчыны ляжалі на кухні. Падчас распівання спіртных напояў яна некалькі разоў выходзіла з кухні. Потым заўважыла, што прапалі тры пярсцёнкі.

Жанчына пачала гаварыць сваім знаёмым: "Вы што, хлопцы, навошта пярсцёнкі забралі? Аддайце".

Мужчыны сталі адмаўляцца, што не бралі іх. Шукалі на падлозе, можа, яны звалілся ці закаціліся куды. Раптам пярсцёнкі знайшліся.

Жанчына аднесла іх у іншы пакой і паклала на тэлевізар. Потым госці перайшлі ў той самы пакой, дзе яна паклала пярсцёнкі. Сама ж з пакоя таксама выходзіла некалькі разоў.

На наступны дзень жанчына заўважыла, што пярсцёнкі зноў зніклі. Да таго ж знік ланцужок, бранзалет і завушнічкі.

І толькі прыкладна праз месяц, калі ў гэтай справе пачала разбірацца міліцыя, мужчына вярнуў пярсцёнкі, але адзін з іх быў надламаны.

Пра гэта паведаміла следчы па асабліва важных справах Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Марына Рагінская.**

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

 



# Што трэба ведаць абітурыенту

Рэгістрацыя на сёлетнія цэнтралізаваныя тэставанні пачалася ў чацвер, 2 мая. Тыя, хто вырашыў атрымліваць вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю, могуць зарэгістравацца да 1 чэрвеня.

Пункты рэгістрацыі будуць працаваць з 9.00 да 18.00 і ў суботнія дні 25 мая і 1 ліпеня. Пра гэта паведамляе Рэспубліканскі інстытут кантролю ведаў.

## Дзе можна здаць тэставанне?

У Гродзенскай вобласці вызначылі шэсць навучальных устаноў, дзе можна зарэгістравацца на тэсты. У Мінскай вобласці (без уліку сталіцы) – тры.

Абітурыент ніяк не прывязаны сваім месцам жыхарства да канкрэтнай навучальнай установы. **Напрыклад, абітурыент з Ашмянаў можа здаваць тэставанне хоць сабе і ў Маладзечне ці Віцебску.** Пункты рэгістрацыі ў Гродзенскай і Мінскай абласцях глядзіце ў табліцах 1 і 2.

## Колькі каштуе рэгістрацыя?

Выніковае тэставанне па адным прадмеце абыдзецца ў 10 тысяч рублёў (кошт пробнага быў 34 900 рублёў). У гэтую суму ўваходзіць плата за прыём і афармленне дакументаў.

Заплаціць за тэставанне можна ў “Беларусбанку”, пералічыўшы грошы на рахунак навучальнай установы, дзе абітурыент будзе здаваць тэст.

Ад платы за тэставанне вызваляюцца наступныя абітурыенты: інваліды, дзеці-сіроты, дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў, дзеці з шматдзетных сямей і сямей вайскоўцаў, супрацоўнікаў органаў МУС, якія загінулі ці сталі інвалідамі пры выкананні службовых абавязкаў.

Для аплаты тэставання ў банку абітурыенты павінны ўзяць з сабой пашпарт.

## Хто можа здаць тэст у рэзервны дзень?

Прыйсці на тэставанне ў дадатковы дзень можна толькі па ўважлівай прычыне, пацверджанай дакументальна. Таму праспаць тэставанне ніяк нельга!

Сёлета рэзервным днём стане 4 ліпеня (чацвер). Зарэгістравацца на яго можна будзе з 27 чэрвеня па 1 ліпеня.

Тэставанне пачнецца таксама а 11 гадзіне.

## Што трэба ведаць абітурыенту:

– прыходзіць у навучальную ўстанову трэба мінімум за 30 хвілін да пачатку тэставання. Калі абітурыент спазняецца, яго не дапускаюць да тэставання.

– з сабой трэба ўзяць пропуск, які выдаецца пасля рэгістрацыі на тэставанне, пашпарт і некалькі ручак, якія пішуць чорным.

– на тэставанне па фізіцы і хіміі можна браць непраграмаваны калькулятар.

**Аддзел інфармацыі**

## Расклад цэнтралізаваных тэставанняў у 2013 годзе

| Прадмет | Дата тэставання |
|---|---|
| Беларуская мова | 14 чэрвеня, пятніца |
| Руская мова | 15 чэрвеня, субота |
| Біялогія | 17 чэрвеня, панядзелак |
| Матэматыка | 19 чэрвеня, серада |
| Грамадазнаўства | 21 чэрвеня, пятніца |
| Фізіка | 22 чэрвеня, субота |
| Гісторыя Беларусі | 23 чэрвеня, нядзеля |
| Хімія | 24 чэрвеня, панядзелак |
| Сусветная гісторыя найноўшага часу | 25 чэрвеня, аўторак |
| Замежныя мовы (англійская, нямецкая, французская, іспанская) | 27 чэрвеня, чацвер |
| Геаграфія | 28 чэрвеня, пятніца |

**Пачатак кожнага тэставання – у 11.00.**

**Гродзенская вобласць.** Табліца 1

| Пункт рэгістрацыі | Якія прадметы можна здаць | Кантакты ўстановы | Банкаўскія рэквізіты |
|---|---|---|---|
| Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы | Беларуская і руская мовы, фізіка, матэматыка, біялогія, хімія, замежныя мовы (англійская, нямецкая, іспанская, французская), гісторыя Беларусі, грамадазнаўства, геаграфія, сусветная гісторыя | www.grsu.by ctest.grsu.by ctest@grsu.by т./факс: 8(0152) 73-03-14, т.: 8(0152) 73-05-32 | р/р 3632900004021, філіял № 400 ААТ “АСБ Беларусбанк” г. Гродна, код 752, УНП 500037559 атрымальнік: ГрДУ імя Я. Купалы |
| Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт | Беларуская і руская мовы, матэматыка, хімія, біялогія | | |
| Гродзенскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт | Беларуская і руская мовы, фізіка, матэматыка, хімія, біялогія, англійская мова | | |
| Гродзенскі дзяржаўны політэхнічны каледж | Беларуская і руская мовы, фізіка, матэматыка | | |
| Лідскі каледж установы адукацыі “Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы” | Беларуская і руская мовы, фізіка, матэматыка, біялогія, гісторыя Беларусі | www.grsu.by ctest.grsu.by ctest@grsu.by т./факс: 8(0154) 52-13-72, т./факс: 8(0152) 74-14-86 | |
| Ваўкавыскі каледж установы адукацыі “Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы” | Беларуская і руская мовы, фізіка, матэматыка, біялогія, гісторыя Беларусі | www.grsu.by ctest.grsu.by ctest@grsu.by т./факс: 8(0151) 22-26-58, т./факс: 8(0152) 73-01-01 | |

**Мінская вобласць.** Табліца 2

| Пункт рэгістрацыі | Якія прадметы можна здаць | Кантакты ўстановы | Банкаўскія рэквізіты |
|---|---|---|---|
| Барысаўскі дзяржаўны політэхнічны каледж | Беларуская і руская мовы, фізіка, матэматыка, біялогія, хімія, замежныя мовы (англійская, нямецкая, іспанская, французская), гісторыя Беларусі, грамадазнаўства, геаграфія, сусветная гісторыя | www.bgpk.of.by mail@bgpk.of.by т.: 8(0177) 75-28-37 | р/р 3632900000055, філіял № 612 ОАО “АСБ Беларусбанк” г. Барысаў, код 810, УНП 600187376 |
| Маладзечанскі дзяржаўны політэхнічны каледж | | www.mgpk.by molopol@ripo.unibel.by т.: 8(0176) 77-08-52 | р/р 3632900490022, філіял № 601 ААТ «АСБ Беларусбанк» г. Маладзечна, код 769, УНП 600029502 |
| Салігорскі дзяржаўны горна-хімічны каледж | | www.Sgght.belhost.by Sggxt.ru@mail.ru т.: 8(0174) 22-14-70 | р/р 3632900001790, філіял № 633 ААТ “АСБ Беларусбанк” код 969, УНП 600122850 |

## На пробным тэставанні “завалілі” фізіку, матэматыку і... беларускую мову

**МАЛАДЗЕЧНА. Цягам вясны на базе Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа прайшлі тры этапы пробнага тэставання.**

– Самым масавым, вядома, быў трэці этап, – кажа **Юры Якуновіч**, намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце політэхнічнага каледжа. – Усяго ў нашым каледжы абітурыенты здалі 735 пробных тэстаў. Здавалі ўсе прадметы, але больш за ўсё – матэматыку (180 чалавек). Амаль усе вынікі тэстаў былі станоўчыя, з якімі абітурыент можа падаваць дакументы на паступленне. Але былі і адмоўныя вынікі: дзевяць чалавек “завалілі” матэматыку, пяць – фізіку, і яшчэ два – беларускую мову.

Цікава, што цягам апошніх некалькіх гадоў паступова выраўноўваецца колькасць тых, хто выбірае для тэставання рускую мову. Раней сітуацыя была супрацьлеглая.

– Сёлета пробны тэст па рускай мове ў нас прайшоў 151 абітурыент, па беларускай – 125, – заўважае Юры Якуновіч. – Беларускую цяпер здаюць меней, і гэта тэндэнцыя апошніх некалькіх гадоў.





 

АСОБЫ

# Творчасць Драздовіча – прыклад нацыянальнага мастацтва


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

Архівіст Ганна Запартыка зрабіла даклад аб перапісцы Язэпа Драздовіча і прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілы.

**МАЛАДЗЕЧНА. Творчасць Язэпа Драздовіча, па меркаванні старэйшага мастака Павілля Кастуся Харашэвіча, яскравы прыклад нацыянальнага рэалізму.**

Такую думку ён выказаў на навукова-краязнаўчай канферэнцыі на мінулым тыдні.

Канферэнцыя "Шляхамі Язэпа Драздовіча" адбылася ў сераду ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча. Яна была прысвечаная таленавітаму мастаку, празаіку і паэту (1888 – 1954), лёс якога звязаны і з нашым рэгіёнам. Нейкі час Драздовіч працаваў у беларускай гімназіі ў Радашкавічах.

Сярод выступоўцаў былі прафесар-філолаг **Вячаслаў Рагойша**, архівіст **Ганна Запартыка**, даследчык беларускай культуры **Яўген Лецка**, бібліяфіл і ініцыятар мерапрыемства **Міхась Казлоўскі**, пісьменніцы **Людміла Рублеўская** і **Лідзія Гардынец**, краязнаўца **Валеры Бурэнь**.

Тэмамі дакладаў на канферэнцыі былі "Краязнаўчыя нататкі" (Валеры Бурэнь), "Любоў і вера мастака" (Лідзія Гардынец), "Кніжная графіка Драздовіча" (Міхась Казлоўскі), "Мястэчка як крыніца мастацкага натхнення" (Яўген Лецка), "Аасоба і творчасць Драздовіча ва ўспрыманні Максіма Танка" (Вячаслаў Рагойша), "Канфлікт рамантычнага архетыпу і "тутэйшасць" мастака" (Людміла Рублеўская).

Грунтоўнае даследаванне ліставання Язэпа Драздовіча і вядомага дзеяча беларускага адраджэння, выдаўца, фалькларыста, мовазнаўца, літаратуразнаўца Браніслава Эпімаха-Шыпілы (1859-1934) правяла дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка. Гэта эпісталярная спадчына і стала тэмай яе даклада на канферэнцыі.

Грунтуючыся на перапісцы патрыярха беларускага адраджэння прафесара Эпімаха-Шыпілы і напачатку яе яшчэ маладога Язэпа Драздовіча, Ганна Запартыка фактычна абвяргае сцвярджэнне Паўліны Мядзёлкі пра тое, што Язэп Драздовіч у 1912-1913 гадах бываў на кватэры прафесара ў Пецярбургу.

Паўліна Мядзёлка ў неапублікаваным фрагменце яе ўспамінаў запісала: "1912-1913 гады... Кожную суботу збіралася беларуская моладзь на кватэры прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілы на 4-й лініі Васільеўскага вострава... Апрача студэнцкай моладзі тут спатыкаеш і іншых дзеячаў беларускай культуры: рухавага, са светлай бародкай жывапісца Драздовіча..."

Ганна Запартыка не знайшла пацвярджэнняў прысутнасці Драздовіча ў Пецярбургу ў згаданы час. Між тым, сяброўства Драздовіча і Эпімаха-Шыпілы працягвалася доўгі час нават праз межы перадваеннай Польшчы і Савецкага Саюза да трагічнай смерці састарэлага заслужанага прафесара ў Ленінградзе ў 1934 годзе пасля рэпрэсій і забароны жыць на радзіме.

У біяграфіі Язэпа Драздовіча яшчэ застаюцца белыя плямы. Тым не менш, цікавасць да яго творчасці дазваляе з кожным годам пакідаць іх усё менш. А ацэнка ўкладу таленавітага мастака і пісьменніка ў нашу культуру становіцца ўсё больш дакладнай і акрэсленай. Дык кім быў Драздовіч – рамантыкам, рэалістам?

Пасля канферэнцыі мы папрасілі Міхася Казлоўскага пракаментаваць тэзіс, выказаны Кастусём Харашэвічам. Краязнаўца і даследчык творчасці Драздовіча не пагадзіўся, што плён мастака можна аднесці да рэалізму хаця б з-за багатай алегарычнасці яго прац:

– Не могуць, канешне, быць рэалістычнымі фантастычныя карціны мастака, – удакладніў Міхась Казлоўскі.

Але ён адназначна пагадзіўся ў ацэнцы творчасці Драздовіча як глыбока нацыянальнай.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

**Даведка "РГ". Язэп Нарцызавіч Драздовіч.** Мастак, пісьменнік, этнограф, скульптар, астраном-аматар. Нарадзіўся 13 кастрычніка 1888 года на хутары Пунькі (цяпер Глыбоцкі раён). Вучыўся ў Віленскай малявальнай школе акадэміка Трутнева. Аздабляў першыя беларускія кнігі, календары. Ім была аформленая кніга аўтара славутага верша "Люблю наш край – старонку гэту..." Канстанцы Буйло "Курганная кветка". Ад 1919 года – мастак-дэкаратар беларускага літаратурна-выдавецкага аддзела пры Народным камісарыяце асветы ў Мінску. Ад 1921 года жыве на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Супрацоўнічае з беларускімі культурнымі арганізацыямі ў Вільні і Мінску. Ад 1927 года працаваў настаўнікам малявання ў Радашкавіцкай, Віленскай і Наваградскай гімназіях. Пасля 1930 года асвойвае "касмічную" тэму. Перабіваўся часовымі працамі. У час вайны напісаў серыю гістарычных карцін. Памёр у 1954 годзе ў беднасці. Імя Язэпа Драздовіча стала вяртацца ў культурны абарот з канца 1970-х гадоў. Імя яго носіць вуліца ў Маладзечне. У 1993 годзе ў Мінску адкрыты помнік Івана Голубева "Вечны вандроўнік" у Траецкім прадмесці.

ВЫСТАВЫ

## "Мне хочацца, каб хтосьці захацеў вышываць"

**МЯДЗЕЛ. У Крывічах 25 красавіка адкрылася персанальная выстава Святланы Роўды "Праз вышыўку глядзіць душа".**

На выставе ў цэнтры народных рамёстваў прадстаўлена каля трыццаці прац майстрыхі. Выкананыя яны вышыўкай крыжыкам.

Падчас адкрыцця выставы прысутных пазнаёмілі з біяграфіяй творцы: працавала яна настаўніцай пачатковых класаў у Крывіцкай сярэдняй школе.

– У асноўным вышываю зімой, калі ўнукаў няма. А летам поўны дом унукаў – ніяк не атрымліваецца, – распавядае майстар.

На адкрыццё выставы сабраліся крывічане, каб падзівіцца майстэрству Святланы Роўды.

У адрас аўтара гучалі цёплыя словы, у тым ліку і ад начальніка аддзела культуры **Ганны Падгол**.

**– Што для вас азначае гэта выстава?** – спытаў у майстрыхі на развітанне.

– Мне хочацца, каб хтосьці таксама захацеў вышываць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Засвір: аркестр у вёсцы, скарбы пад дубамі і мумія ў касцёле

**МЯДЗЕЛ. У Нарачанскім краі, ля возера Свір, прытулілася вёсачка Засвір. Турыстам яна найперш вядомая храмам і маляўнічымі рэшткамі кляштара.**

Ці знойдзеш лепшага гіда па Засвіры, чым старэйшына вёскі **Тадэвуш Худы?** Ён жа нарадзіўся і ўсё жыццё пражыў тут, як кажа, "нікуды, ні на якія вярбоўкі не з'язджаў".

Расказвае, што сучасная Засвір утварылася ў выніку аб'яднання вёсак Засвір, Унукі і хутароў Сабінова і Алешкі. Злучылі іх у 1966 годзе. А ў памяць пра Унукі засталася назва адной з вуліц – Унукаўская.

**– Якія прозвішчы для вёскі характэрныя?**

– Пераважна Кісялі і Худыя. Адкуль Худыя браліся, я пытаўся ў старажыла. Неяк пайшлі людзі рабіць да пана ў Алешкі. А раней пан што хочаш мог зрабіць, нават прозвішча памяняць. А Ганціеўскі дрэнна рабіў. То пан паглядзеў, што худая работа яго, і сказаў, што і прозвішча такое будзеш мець. Вось так і з'явіліся Худыя.

**– Чым раней вёска славілася?**

– Былі і рамеснікі, і вышывальшчыцы, і на кроснах ткалі, шмат лёну сеялі. Усё рабілі самі. Помню, пасля вайны хлеб пяклі, такія печы вялікія паробленыя былі. Як ідзеш праз вёску – чуеш пах свежага хлеба.

І рыбакоў у нас было. У возеры рыбы ўсялякай хапала. Тата заўсёды пытаўся: "Якой сёння прынесці?". І можна было заказаць: хочаш плоткі, а хочаш акуня... Сетачку паставіць (ведаў, у якім месцы), і такой па заказу прынясе. Раней у нас два гурты былі па пяцьдзесят кароў. А цяпер на ўсю вёску дзве каровы засталіся. У школу, як я вучыўся, 120 вучняў хадзілі, а цяпер і школы той няма.

## Архітэктар касцёла загінуў, зваліўшыся з яго

– Цяпер адзін касцёл Засвір трымае, – запэўнівае Тадэвуш Худы. – Разам з суседнімі вёскамі то чалавек трыццаць ходзяць у храм. І ў асноўным такіх вось старыкоў. Са Свіры святар прыязджае штонядзелі і па вялікіх святах. У нас два фэсты: на Тройцу вясной позна, як усеюцца ўсе, і на Юзафата, як убяром з поля.

Памятаю з маленства, на фэст з усёй акругі збіраліся людзі, прыязджалі на конях. У кожнага ў вёсцы былі госці. Ішоў і гандаль: прывозілі пернікі, абаранкі, сухарыкі розныя. А дзецям малым так хочацца купіць! Дык яек сабраў, прадаў – і ўжо з цукеркамі.

Гісторыя храма паходзіць да 1713-1714 гадоў, калі на грошы ўладальнікаў Зяновічаў быў пабудаваны мураваны кармеліцкі касцёл і кляштар. У 60-х гадах 19 стагоддзя касцёл перарабілі ў царкву. У 1919 годзе яго вярнулі каталікам.

Ёсць сумнае паданне, звязанае з трагічнай гібеллю архітэктара (або фундатара) касцёла. Краязнаўца з Мядзельшчыны **Іван Драўніцкі** запісаў дзве яго версіі. Па адной – фундатар не ўтрымаўся на лесвіцы, калі разам з архітэктарам палез здымаць драўляны вянок, што павесілі над крыжам над галоўным франтонам у знак заканчэння работ. Па другой, больш рамантычнай версіі, архітэктар Адам палез на вышыню толькі што пабудаванага касцёла папраўляць плакат з надпісам "Гэты касцёл пабудаваны ў гонар жонкі Яніны".

Так яно было ці не, цяпер не скажаш. Але памяць пра тыя падзеі засталася не толькі на ўзроўні паданняў. Яшчэ колькі дзясяткаў год таму тут захоўвалася і мумія – забальзамаваныя астанкі чалавека.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Тадэвуш Худы дэманструе малатарню.

– Расказвалі, што ляжала мумія ў шкляной труне, але ў вайну немцы забралі труну для нейкага забітага афіцэра, пераклалі мумію ў драўляную, – дадае Тадэвуш Худы.

У савецкі час даведаліся пра мумію турысты, сталі выносіць яе на вуліцу, фатаграфавацца з ёй. Таму ў пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя жыхары вёскі вырашылі пахаваць астанкі на мясцовым могільніку, паставілі крыж.

Наогул, з Засвірскім касцёлам, як і з іншым цікавымі гістарычнымі месцамі, звязана нямала паданняў. Так што, могуць вам у вёсцы расказаць і пра магчымых хады пад храмам, і нават пра скарбы, закапаныя пад магутнымі, трохсотгадовымі дубамі.

Адразу за касцёлам можна пабачыць нямецкае пахаванне часоў Першай сусветнай вайны.

– Немцы як занялі вёску, з кляштара ўсіх выселілі, зрабілі лазарэт. Сюды хворых з фронту прывозілі, як паміралі, то тут іх хавалі, – расказвае Тадэвуш Худы.

## Ксёндз і паэт

З Засвірам звязанае імя паэта, каталіцкага святара Канстанціна Стаповіча (літаратурны псеўданім – Казімір Сваяк). Атрымаў ён прызначэнне ў мясцовы храм у 1920 годзе, стаў першым пробашчам пасля аднаўлення касцёла. Тут практычна і правёў астатнія гады жыцця, якое абарвалася ў самым росквіце з-за хваробы (памёр ён у 1926 годзе).

Казімір Сваяк вядомы сваёй нацыянальна-адраджэнскай дзейнасцю. Вось і ў Засвіры стараўся ўздымаць статус роднай мовы, выкарыстоўваў яе ў святарскай дзейнасці. Пісаў: *"Людцы прывыклі клясці толькі долю сваю і грашыць па-беларуску, вось дзіўным здалося, што можна і хваліць Бога гэтай мовай..."*.

– Казімір Сваяк арганізаваў у касцёле аркестр, – расказвае Тадэвуш Худы. – Сваіх людзей, засвірскіх, узяў, трубы пакупляў кожнаму. Гэта мала ў якім касцёле аркестр быў.

Не дзіва, што вакол ксяндза гуртавалася мясцовая моладзь, інтэлігенцыя.

*"Кастусь наогул быў вельмі таварыскім чалавекам. Любіў, калі да яго часта прыходзілі ўсякія госці з рознымі справамі. На плябаніі амаль штодня можна было спаткаць не толькі людзей з мясцовай, але нават з суседніх парафій, з Шэметава і са Свіра. А з другога боку, ён сам часта адведваў сялян. Любіў зайсці да вядомага яму гаспадара, каб прага пагутарыць пра бягучыя справы, пра тое, што дзеецца на свеце, выслухаць уважна людскія турботы і даць патрэбную раду"*, – пісаў ва ўспамінах брат святара – Бярнард Стаповіч.

З паэтам сябраваў, прыязджаў у госці вядомы мастак Язэп Драздовіч. Як памяць пра гэта, засталіся некалькі малюнкаў, сярод іх і "Сваякоў ганак". На ім – вывява ганку, на прыступках якога любіў сядзець святар.

Засвірскі перыяд стаў адметным у творчай біяграфіі паэта. Якраз у гэты час была выдадзеная ў Вільні адзіная прыжыццёвая кніга Казіміра Сваяка "Мая ліра".

У Засвіры памятаюць пра свайго святара – у касцёле некалькі год таму з'явілася памятная шыльда ў яго гонар.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Засвірскі касцёл і муры кляштара.

КАЗКА

# Пра коней

Былі два конікі.

Адзін быў увесь белы і звалі яго Бялюшак, другі быў чорны і звалі яго Чарныш.

Раніцай, калі ўстала сонейка, усталі і конікі. Пасля прыйшоў да іх гаспадар і даў ім аўса, сена, даў ім вады.

Калі коні пад'елі і папілі, запрог іх гаспадар. Узяў пугу, каб ехаць у поле.

Але чаму не едуць? Чаму яшчэ стаяць?

Чакаюць Іванку.

Гаспадар пасадзіў Іванку на воз, падаў яму пужку. Іванка махаў ёй і паганяў: "Но, конікі! Но!"

Ехалі, ехалі, аж прыехалі на поле.

На полі запрог гаспадар коней у плуг.

І аралі поле. Гаспадар ішоў за плугам, конікі цягнулі плуг. Ішоў за імі і Іванка. У руцэ меў пужку, той пужкай махаў і паганяў конікаў: "Но, конікі! Но!"

А нехта на ўсіх іх глядзеў: і на конікаў, і на гаспадара, і на Іванку.

Глядзеў на іх жавaранак, птушачка, што над полем лятае. Глядзеў на іх і спяваў, спяваў. А коні цягнулі плуг, гаспадар араў. Іванка махаў пужкай і паганяў: "Но, конікі! Но!"

І было ім усім добра.

**З кнігі "Іванка" Францішка ТЭНЧЫКА. З чэшскай мовы пераклала Яўгенія ЧАПЛІНСКАЯ.**



Малюнак ponini.ru.

**Паспрабуй намаляваць каня спачатку па лініях, а потым на асобным аркушы.**



**Вітаю цябе, мой сябар! Я – бобрык Рэгіян. Запрашаю цябе ў захапляльнае падарожжа па старонцы, якую падрыхтавалі спецыяльна для цябе. Тут ты знойдзеш і гульні, і размалёўкі, і цудоўныя казкі.**

## А цяпер адкажы на пытанні

1. Колькі было конікаў? Як іх звалі?
2. Што ядуць коні?
3. Куды ехаў Іванка з бацькам? Што яны там рабілі?
4. У якую пару года гэта адбывалася?
5. Што адбываецца ў прыродзе, калі надыходзіць вясна?
6. Ці ведаеш ты, для чаго аруць зямлю? Што на ёй робяць потым? Чым яшчэ займаюцца на полі?
7. У Іванкі былі два конікі. Якіх яшчэ свойскіх жывёл ведаеш ты?
8. Хто назіраў за тым, як гаспадар араў? Якія птушкі прылятаюць да нас вясной? Адкуль яны лятуць?

## Як называецца прылада, якой гаспадар араў поле?



## Як называецца прылада, якой Іванка паганяў коней?



ЗАДАННІ

## Логіка для дашкольнікаў

Думаеце, логіку вучаць толькі ва ўніверсітэце? Зусім не! Гэтую навуку можна і трэба пачынаць вывучаць яшчэ да школы. Такія заданні можна лёгка складаць самім бацькам, для дзяцей яны захапляльныя і вельмі карысныя для развіцця інтэлекту.

Паспрабуйце выканаць некалькі лагічных задачак з дашкольнікамі, і, магчыма, гэта стане любімай гульнёй вашага дзіцяці.

**Паглядзіце на ўзор**



**А цяпер выканайце наступныя заданні:**















Малюнкі ratik.ru.

ДЛЯ БАЦЬКОЎ

## Фокусы з вадой

**Вада – гэта адно з самых звычайных і пры гэтым чароўных рэчываў.**

Дзецям любога ўзросту можна расказваць пра цудоўныя магчымасці вады, і для кожнага ўзросту будзе штосьці новае, у тым ліку і для бацькоў.

Для самых маленькіх падрыхтуйце простае шоу. Пастаўце на стол некалькі сасудаў рознай формы: талеркі, вазы, шклянкі. Вазьміце, напрыклад, шклянку, наліце туды вады і распытайцеся ў дзіцяці, якога яна колеру, чым пахне, які мае смак. Дзе ён ці яна бачаць ваду (у лужынах, калі ідзе дождж, у рэчцы). А потым пакажыце, што вада можа прымаць любую форму, і пералівайце яе ў розныя сасуды.

Потым у ваду можна дадаць цукар ці соль і папрасіць адказаць, што змянілася. Калі дадаць каву ці шыпучую вітамінку, то зменіцца і пах, і смак. Паэксперыментуйце разам з 2-4-гадовым сынам ці дачкой, і яны будуць у захапленні!

Пастаўце шклянку з кіпенем і накрыйце яе, а потым пакажыце, як з накрыўкі сцякае вада. Спытайцеся, дзе хутчэй астыне кіпень: у шклянцы ці ў сподачку.

### Пафарбаваць кветку

Пастаўце кветку белага колеру ў ваду, у якую дадайце харчовы фарбавальнік любога колеру. Паназірайце, як мяняецца афарбоўка кветкі.

Сцяблінка мае трубачкі, па якіх вада падымаецца да кветкі. Каляровая вада афарбоўвае пялёсткі. Так можна зрабіць сінія ці зялёныя ружы і іншыя кветкі.

### Стварыце воблака

Наліце ў трохлітровы слоік два з паловай літры кіпеню. На слоік пастаўце бляху. На бляху пакладзіце некалькі кубікаў лёду. Паветра ўнутры слоіка, падымаючыся ўверх, пачне астываць. Вадзяная пара будзе кандэнсавацца, утвараючы воблака.

Гэты эксперымент паказвае, як утвараюцца аблокі. А адкуль жа бярэцца дождж? Аказваецца, кроплі, нагрэтыя на зямлі, падымаюцца ўверх. Там ім становіцца холадна, і яны ціснуцца адна да адной, утвараючы аблокі. Сустракаючыся разам, яны павялічваюцца, становяцца цяжкімі і падаюць на зямлю ў выглядзе дажджу.

### Чароўныя запалкі

Вам спатрэбіцца пяць запалак.

Надламіце іх пасярэдзіне, сагніце пад прамым вуглом і пакладзіце на сподачак так, каб усе згібы апынуліся разам у цэнтры.

Капніце некалькі кропель вады на згіб запалак. Назірайце. Паступова запалкі пачнуць распраўляцца і ўтвараць зорку.

Прычына гэтай з'явы ў тым, што дрэва ўсмоктвае вільгаць. Дрэва брыняе, а яго ацалелыя валокны "тлусцеюць" і ўжо не могуць моцна згінацца, таму пачынаюць распраўляцца.

**Паводле кнігі Наталлі Зубковай "Воз і маленькая каляска цудаў".**

ФУТБОЛ

# Клуб будзе плаціць стадыёну два мільёны рублёў за гульню

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак, 29 красавіка, прайшла сустрэча кіраўніцтва футбольнага клуба "Маладзечна" са старшынёй райвыканкама Аляксандрам Яхнаўцом.**



Новы трэнер каманды Дзяніс Мятліцкі – сам выхаванец маладзечанскага футбола. Яго трэнерам быў Андрэй Найдзіч.

Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Пасля сустрэчы галоўны трэнер каманды **Дзяніс Мятліцкі** і дырэктар футбольнага клуба "Маладзечна" **Аляксандр Любанец** пагадзіліся даць інтэрв'ю "Рэгіянальнай газеце".

**– Вы толькі што выйшлі ад старшыні райвыканкама. Якія навіны?**

**Аляксандр:** – Першая навіна: 40 мільёнаў рублёў выканкам нам выдзяляе. Так што грошы на заяўку ў нас будуць! Я хачу падкрэсліць гэта. Дзякуй вялікі Аляксандру Яхнаўцу за тое, што верыць у нас і падтрымлівае! Толькі пры яго дапамозе ў нас нешта атрымоўваецца. Ён, вядома, да нас прыглядаецца, але і не перашкаджае нам, разумее нашы цяжкасці.

**Дзяніс:** – Сёння ж адбылася і размова з дырэктарам стадыёна. Мы, футбольны клуб, які прадстаўляе горад на рэспубліканскім узроўні, вымушаныя плаціць сваімі грашыма за камунальныя паслугі, за арэнду стадыёна, за прысутнасць на матчы "хуткай дапамогі"! У суме нам гэта абыдзецца ў два мільёны рублёў за адзін матч. І гэта пры тым, што я кансультаваўся ў бухгалтара "Забудовы". Яны ніякай аплаты не рабілі ніколі. Нам ставяць палкі ў колы ўжо ў самым пачатку.

**– Што чуваць са спонсарскай дапамогай?**

**Аляксандр:** – Пра "Беларусбанк" яшчэ рана гаварыць. Пасяджэнне па нашым пытанні пройдзе толькі ў канцы мая або ў чэрвені. А грошы, пры станоўчым выніку, з'явяцца яшчэ пазней. Але размова ідзе пра 200 мільёнаў рублёў. Таму варта пачакаць. Зноў-такі і той "Эціхад", пра які мы так шмат гаварылі. Яны не кажуць ні "так", ні "не". Мы запрасілі іх на гульню.

**– А як жа форма? На мінулай сустрэчы вы гаварылі, што форма з эмблемай "Эціхада" зацверджаная. Яна будзе?**

**Аляксандр:** – Мы паказалі ім эскізы формы, але грошай на форму так і не дачакаліся. Таму пашылі без эмблемы. Затое ў традыцыйных бела-зялёных колерах.

**– А калі будзе гатовы сайт клуба?**

**Аляксандр:** – Сайт ужо даўно гатовы, але мы не можам заплаціць за яго распрацоўшчыку пяць мільёнаў рублёў. Вельмі спадзяёмся на тое, што "Маладзечна-жалезабетон" з гэтымі грашыма нам дапаможа.

**– Як ідзе рэалізацыя абанементаў?**

**Аляксандр:** – Чатыры юрыдычныя асобы закупілі абанементы: Беларуская чыгунка, дзіцячы цэнтр "Расток", "Водаканал" і таварыства "Беразінскае". Дзясятак абанементаў набылі фанаты. Нагадаю яшчэ раз для тых, хто не паспеў набыць абанементы. У пятніцу з 18.00 іх можна будзе набыць на стадыёне. Прыходзьце, набывайце, каб у суботу не стаяць у чарзе за білетамі на гульню.

**Дзяніс:** – Мы чакаем на першы матч прыкладна 500 гледачоў, так што эканоміце ваш час.

**– Калі пачнецца матч?**

**Дзяніс:** – 4 мая а 17 гадзіне.

**– Спадар Дзяніс, а склад каманды ўрэшце вядомы?**

– Вядома, мы правялі тры спарынгі, паглядзелі кандыдатаў. Так што на 90% склад каманды вырашаны. Сёння ў клубе "Маладзечна" 27 футбалістаў.

**– Імёны агучыць можаце?**

– Магу. Але ці скажуць яны вам нешта? Маладзечанцаў у нас гуляе толькі трое: **Юры Бугай, Павел Суман, Віталь Макрыцкі**. Да нас звярнуліся **Ігар Талькоўскі, Павел Маісёнак**. Калі яны пройдуць медагляд, з імі таксама будзем супрацоўнічаць.

**– Як ідзе падрыхтоўка да суботняга матчу?**

– Па-першае, нам дастаўся адзін з самых моцных сапернікаў. Нагадаю, што гэта "Гомельчыгунтранс". Каманда, якая ў мінулым сезоне паказала сябе вельмі дастойна. І да таго ж пачала трэніроўкі значна раней за нас. Але мы за 10 дзён правялі тры спарынгі, вынікамі якіх я задаволены. Хочацца верыць у тое, што для Гомеля мы станем "цёмным канём". Мы будзем змагацца за кожны метр поля, за кожны мяч, за кожнае ачко.

**– А як матывуеце сваіх футбалістаў на гульню?**

– Самая лепшая матывацыя – заўзятары на трыбунах. Я веру ў сваіх футбалістаў. Яны амбіцыйныя і маладыя. Яны любяць тое, што робяць. І самае галоўнае, што я веру ім, а яны вераць мне. Я запрашаю ўсіх, хто любіць футбол, не застацца ўбаку. Гэты матч для нас вельмі важны. На ім абяцаў прысутнічаць і Аляксандр Яхнавец. Нашай камандзе трэба падтрымка. А гульня будзе! Я ўпэўнены. Мы ўсе зачакаліся яскравага футбола, яскравай гульні і, вядома ж, яскравых перамог!

**Наталля ТУР.**




НАВІНЫ

## Два першыя месцы – за гімназістамі

**МЯДЗЕЛ. 27 красавіка прайшоў трэці, заключны, тур чэмпіяната раёна па інтэлектуальных гульнях "Што? Дзе? Калі?".**

У сярэдняй школе №1 сабраліся 19 камандаў з 16-ці ўстаноў адукацыі раёна. Выяўлялі лепшых у дзвюх гульнях: "Медыяазбука" і "Што? Дзе? Калі?", паведаміла загадчыца раённага метадычнага кабінета аддзела адукацыі **Ганна Саўчык**.

Па выніках усіх трох тураў вызначыўся чэмпіён раёна. Гэта каманда "Матрыкс" з гімназіі-інтэрната Мядзела. На другім месцы яшчэ адна каманда гімназіі, складзеная з маладзейшых вучняў – "Матрыкс-М". Трэцяе месца дасталася прадстаўнікам сярэдняй школы №2 Мядзела, камандзе "Піраміда".

Пераможцы атрымалі пераходны кубак – "Мудрую саву".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## "Смаргонь" атрымала першую перамогу

**СМАРГОНЬ. Другі матч сёлетняга чэмпіянату Першай лігі прынёс камандзе перамогу з лікам 3:2.**

Сустрэча прайшла ў суботу, 27 красавіка, на дамашнім стадыёне.

Цяпер на рахунку "Смаргоні" тры ачкі і восьмае месца ў турнірнай табліцы.

Лік у матчы адкрыў **Вячаслаў Палазнік**. Мяч заляцеў у вароты саперніка ўжо на трэцяй хвіліне гульні. Сярод смаргонцаў адзначыліся **Сяргей Бандарэнка** і **Ігар Анцыпаў**.

Наступны матч "Смаргоні" пройдзе на выездзе. 4 мая супрацьстаяць камандзе будзе мінскі "СКВІЧ".

**Аддзел інфармацыі.**

## Маладзечанец стаў чэмпіёнам Беларусі

**МАЛАДЗЕЧНА. З 23 па 27 красавіка горад прымаў усебеларускія спаборніцтвы па боксе. За перамогу змагаліся і хлопцы, і дзяўчаты.**

Усяго турнір сабраў больш за 100 спартсменаў з усёй Беларусі. Не засталіся без прызавых месцаў і маладзечанцы. Вучань гімназіі №6 **Дзмітры Асанаў** заняў першае месца ў вагавай катэгорыі да 52 кілаграмаў і стаў чэмпіёнам Беларусі. Летась наш зямляк на еўрапейскіх спаборніцтвах стаў чэмпіёнам Еўропы.

Яшчэ адно прызавое месца – у **Канстанціна Міхайлава**. Ён заняў трэцюю пазіцыю ў вагавай катэгорыі да 81 кг.

**Аддзел інфармацыі.**

## 16 камандаў удзельнічалі ў кросе

**МЯДЗЕЛ. У суботу, 27 красавіка, на гарадскім стадыёне адбыўся веснавы лёгкаатлетычны крос.**

Праходзіў ён у рамках раённай спартакіяды школьнікаў.

Удзельнічалі ў спаборніцтвах 16 камандаў. Каманда Будслаўскай сярэдняй школы перамагла ў групе "А" (у ёй змагаліся школы, дзе больш за сто вучняў). У групе "Б" першае месца заваявалі вучні Сырмежскай школы-сада.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

 



КОНКУРСЫ

# Завяршыўся конкурс “Вілейшчына ўстойлівая”




Лагатып Тамары РАЎДАНОВІЧ.




Лагатып Дзмітрыя КАРКОТКІ.

**ВІЛЕЙКА. У чацвер, 25 красавіка, падвялі вынікі конкурсу “Вілейшчына ўстойлівая”.**

Ён быў абвешчаны грамадскай арганізацыяй “ЗОВіК” і праводзіўся па трох намінацыях: “ідэі выкарыстання Вілейскага вадасховішча”, “зялёныя міні-маршруты Вілейшчыны”, “лагатыпы Вілейшчыны”.

У прэзентацыі прац удзельнічалі члены грамадскай арганізацыі па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага рэгіёна “ЗОВіК”, прадстаўнікі ўлады на чале са старшынёй раённага Савета дэпутатаў **Наталляй Радзевіч** і грамадскіх арганізацый, краязнаўцы і супрацоўнікі музея, гаспадары аграсядзіб.

– Удзельнікаў конкурсу было больш за дваццаць. На імпрэзе прадставілі праекты, прайшло іх абмеркаванне, а таксама аб’яўленае рашэнне журы, – паведаміла прэсакратар грамадскай арганізацыі **Наталля Валынец**. – Прызы атрымалі ўсе ўдзельнікі. Пераможцаў так і не вызначылі, бо вартых увагі работ было нямала.

У конкурсе ўдзельнічалі як жыхары Вілейскага раёна, так і ўраджэнцы краю, якія жывуць у іншых мясцінах. Найбольшую актыўнасць удзельнікі праявілі ў намінацыях “лагатыпы Вілейшчыны” і “зялёныя міні-маршруты Вілейшчыны”. Разам з лагатыпам прапаноўвалі такія слоганы, як “Вілейшчына. Край, слаўны і прыродай, і людзьмі”, “Вілейшчына. Лепш бачыць, чым чуць”, і іншыя.

Па словах **Наталлі Валынец**, дасланымі на конкурс лагатыпамі зацікавіліся ўладальнікі аграсядзіб і плануюць іх выкарыстоўваць для прыцягнення турыстаў. У будучым магчыма выкарыстанне лагатыпаў на білбордах, а міні-маршрутаў – для работы турысцкіх устаноў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЭКАЛОГІЯ

## Экалагічны тыдзень з жыцця політэха

**МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень экалогіі прайшоў у Маладзечанскім політэхнічным каледжы з 22 па 25 красавіка.**

Цягам яго навучэнцы паспрабавалі сябе ў якасці навукоўцаў, журналістаў, акцёраў і гумарыстаў.

Па словах метадыста **Сняжаны Аўласевіч**, традыцыйны тыдзень быў цікавы і насычаны. Кожны дзень быў прысвечаны пэўнай тэматыцы.

Самым практычным стаў праект "Жывая вада": любы ахвотны мог прывезці ваду з той мясцовасці, дзе ён жыве. Хімічны аналіз паказаў, якую воду п'юць навучэнцы.

Да Міжнароднага дня Зямлі, які прайшоў 22 красавіка, прысвяцілі зялёную акцыю "Пасадзі кветку". Да таго ж кожная група выпусціла тэматычную газету або інфармацыйны лісток.

Да закрыцця тыдня першакурснікі правялі экалагічны КВЗ. За галоўны салодкі прыз змагаліся каманды "Дзьмухаўцы" і "Звар'яцелыя эколагі". Ім давялося выявіць не толькі пачуццё гумару, уменне іграць на сцэне і спяваць, але і кемлівасць, каб адгадаць тое, што знаходзіцца ў "Чорнай скрыні".

Самым смешным конкурсам была "Пантаміма". Навучэнцы паказвалі качак, гусакоў, мядзведзяў і нават пінгвінаў!

Дамашнім заданнем была інсцэніроўка казкі на новы лад. Навучэнцы прадставілі "Рэпку" і "Царэўну-жабу". Пачынаючыя акцёры не толькі рассмяшылі прысутных, але і паднялі сур'ёзныя праблемы экалогіі і здаровага ладу жыцця.

Узнагароджанне самых актыўных удзельнікаў тыдня прайшло за салодкім сталом.

**Настасся СКРЫЦКАЯ, школа журналістыкі “Маладзік”.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## На талаку ў Стайках чакалі больш удзельнікаў

**ВІЛЕЙКА. Ахвотных дапамагчы прыбраць бровар ў Стайках запрашалі ў суботу, 27 красавіка.**

Паводле словаў старшыні Вілейскай суполкі аховы помнікаў гісторыі і культуры **Дзяніса Канецкага**, прыйшло менш людзей, чым збіралася – агулам каля дзесяці.

Сярод удзельнікаў быў **Алесь Раткевіч** з Чысці, які два гады таму сам збіраў талаку на прыборку вёскі Боркі, спаленай у гады Вялікай Айчыннай вайны фашыстамі. Прысутнічаў таксама **ксёндз Анатоль** з Альковічаў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 3 | | | | 7 | | | |
| | 5 | | 4 | | | | 8 | |
| | | 1 | | | 3 | 5 | | |
| | | | 8 | | | 7 | 5 | |
| | | 6 | | | | 1 | | |
| | 8 | 5 | | | 2 | | | |
| | | 2 | 6 | | | 3 | | |
| | 4 | | | | 8 | | 2 | |
| | | | 9 | | | | 1 | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 3 | 8 | 5 | 9 | 7 | 2 | 4 | 1 |
| 2 | 5 | 7 | 4 | 1 | 6 | 9 | 8 | 3 |
| 4 | 9 | 1 | 2 | 8 | 3 | 5 | 7 | 6 |
| 3 | 1 | 4 | 8 | 6 | 9 | 7 | 5 | 2 |
| 9 | 2 | 6 | 7 | 4 | 5 | 1 | 3 | 8 |
| 7 | 8 | 5 | 1 | 3 | 2 | 4 | 6 | 9 |
| 8 | 7 | 2 | 6 | 5 | 1 | 3 | 9 | 4 |
| 1 | 4 | 9 | 3 | 7 | 8 | 6 | 2 | 5 |
| 5 | 6 | 3 | 9 | 2 | 4 | 8 | 1 | 7 |

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Біяграфічная драма **“Легенда №17”** (Расія, 2013, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3, 4, 7-9 мая – у 18.00
5, 6 мая – у 21.00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **“Рыф”**, 3D (Паўднёвая Карэя, ЗША, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога).
3, 5, 8 мая – у 16.00
4, 9 мая – у 13.00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Фантастычныя прыгоды **“Джэк – забаўнік веліканаў”** 3D (ЗША, 2013 год, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога).
5 мая – у 13.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Прыгодніцкі экшн **“Жалезны чалавек”**, 3D (ЗША, Кітай, 2013, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога).
3, 7, 8 мая – у 21.00
4, 9 мая – у 15.00, 21.00
5, 6 мая – у 18.00
Кошт білета – 35 000 (дзённы), 40 000 (вячэрні).

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама, камедыя **“Спачатку каханне, пасля вяселле”** (ЗША, 2011, для гледачоў, старэйшых за 16 год)
3-5, 9 мая – у 17.30, 19.3-, 21.30
6 мая – у 21.30
7, 8 мая – у 19.30, 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **“Адважная Ліфі”** (Паўднёвая Карэя, 2011, без узроставых абмежаванняў)
4, 5, 9 мая – у 14.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

Прэм’ера. **“Казка пра чырвоную стужачку”** (вясёлая прыгода для дзяцей і дарослых) Галіна Латышава Алег Чэчанеў
18 мая, субота, у 11.30 і
21 мая, аўторак, у 10.30 і 12.30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ’ЕРА. **“Бывай, канферансье”** (спектакль-канцэрт) Рыгор Горын
7 мая, аўторак, у 18.00

**“Камедыя”** (камедыя ў 2-х дзеях) *Уладзімір Рудаў*
23 мая, чацвер, у 19.00

ПРЭМ’ЕРА. **“Падобны да Стынга”** (аптымістычная трагедыя ў 2-х дзеях) *Ірына Пісьменная*
28 мая, аўторак, у 19.00

**“На другі дзень Сёмухі”** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове “Прымакоў” Янкі Купалы) *Юры Вута*
29 мая, серада, у 19.00

ПРЭМ’ЕРА. **“Сямейны партрэт з пабочнай асобай”** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сцяпан Лабазёраў*
30 мая, чацвер, у 19.00

Тэатра мае права на замену спектакляў
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл.: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: **modt@tyt.by.**

ГАРАСКОП (3-9 МАЯ)


**Авен.** Калі ў вас ёсць якая-небудзь запаветная мара, то зоркі наблізяць вас да яе ажыццяўлення. Планеты самі паклапоцяцца аб тым, каб вы апынуліся ў патрэбны час у патрэбным месцы.


**Цялец.** Гэта перыяд моцных эмоцый, адчуванняў, таму ўціхамірвайце пачуцці. Атрымлівайце асалоду ад вясны, ад абуджэння прыроды.


**Блізняты.** Узважвайце кожнае слова, бо балбатлівасць можа сыграць з вамі злы жарт. Калі ёсць час для філасофскіх роздумаў, то перагледзьце свой погляд на ўласнае становішча ў грамадстве.


**Рак.** Калі вы праявіце ініцыятыву, то чакайце перамен да лепшага. І не бойцеся новага. Смелаcць і рашучасць – і вам гарантаваны шанс на поспех.


**Леў.** Калі ў вас дрэнны настрой, нешта не ладзіцца, то паспрабуйце “пераключыць каналы” – перастройцеся на іншую хвалю, і ўсё пачне атрымоўвацца.


**Дзева.** Пазбягайце неабдуманых учынкаў, здзейсненых пад уплывам эмоцый. Не вырашайце пытанні там, дзе вы не спецыяліст. Лепш звярніцеся па дапамогу.


**Шалі.** Вы сталі нецярплівымі, нават агрэсіўнымі. Прафесійныя справы вас не цікавяць, але вы пагружаецеся ў іх, каб забыць пра ўласныя праблемы, якія прыгнятаюць вас. Вядзіце барацьбу не з праблемамі, а з сабой.


**Скарпіён.** Вам трэба звярнуць увагу на сваё здароўе, асабліва ўстрымацца ад спажывання алкаголю.


**Стралец.** Не крыўдзіцеся на людзей, якія гавораць вам праўду, нехаця наносячы ўдар па самалюбству, менавіта іх парады засцерагуць вас ад крызісных сітуацый у будучым.


**Казярог.** Гэтыя дні, можа, і не такія ўдачныя, але ўсё ў вашых руках. І калі вам будзе здавацца, што вас ніхто не цэніць, то вазьміце сябе ў рукі і дзейнічайце, як лічыце патрэбным.


**Вадалей.** Дазвольце падзеям развівацца самім па сабе і не старайцеся плысці супраць цячэння.


**Рыбы.** Новы ўсплёск рамантычных пачуццяў можа закружыць вам галаву, ды так, што вы забудзеце пра ўсё на свеце.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**



 

ISSN 1991-7155
9 771991 715006



# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +10 / +11 | | +14 / +17 | | +11 / +17 | | +6 / +16 | |
| | 742 | ↙ 7 | 741 | ↙ 7 | 742 | ↓ 2 | 746 | ↓ 2 |
| Вільня | +10 / +13 | | +7 / +16 | | +10 / +16 | | +9 / +16 | |
| | 753 | → 6 | 751 | → 5 | 752 | ↓ 1 | 756 | ↘ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.27
Захад 20.51
Даўжыня дня 15.24

Усход 20.51
Захад 14.39
Квадра 4

**4 мая, субота**

| Горад | Ноччу | Днём | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | +8 | +14 | 747 | ← 9 |
| Гродна | +9 | +15 | 749 | ← 3 |
| Мінск | +14 | +17 | 741 | ↙ 7 |
| Магілёў | +9 | +14 | 747 | ↙ 6 |
| Брэст | +11 | +16 | 748 | ↙ 2 |
| Гомель | +16 | +21 | 748 | ← 3 |

## ПРЫКМЕТЫ

- "Сей авёс хоць у ваду, але ў пару". На Аляксея (7 мая) сеялі авёс.
- 8 мая. У каталікоў Станіслаў: "Сей лён на Станіслава – вырасце як лава".
- На Марка (8 мая) прылятаюць пеўчыя птушкі.

# Чытайце праз тыдзень:

- **"Вернецца сын з вайны, як снег на зямлю ляжа..." Аповед Галіны Буркевіч пра жанчыну, якая моцна чакала, калі вернецца сын, які знік без вестак.**







## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА

Фота Настасі РОЎДЫ

**Урэшце маладзечанцы спусціліся на ваду ў гарадскім парку. Гэта ўжо не галантнасць, калі двое мужчын падтрымліваюць адну жанчыну. Гэта – сродак бяспекі.**







■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як вы ацэньваеце цяперашнюю адукацыю?

**Максім Халязнікаў, электрык:**

– На чацвёрку па пяцібальнай шкале. Дзяцей запужваюць: настаўнікі крычаць на іх, пагражаюць адзнакамі. І дзеці больш зазубрываюць, а не запамінаюць.

**Сяргей Голубеў, ахоўнік:**

– Нармальная адукацыя. Думаю, што яна стала лепшай. З'явілася шмат новых прафесій. А ўвогуле ўсё залежыць ад чалавека і яго жадання вучыцца.

**Міхаіл Бальшакоў, дырэктар будаўнічай фірмы:**

– Добра ацэньваю. Вельмі даступнае харчаванне для дзяцей. Комплексны абед – каля 10 тысяч рублёў. Можна паесці. Дзеці вясёлыя, завадныя, няма цьмяных паніклых твараў. Калі ўзяць маладых спецыялістаў, то новыя кадры патрэбныя. Чым іх больш, тым лепш.

**Вячаслаў Фёдараў, тэхнік-электрык:**

– Узровень у некаторых навучальных установах падняўся ў параўнанні з мінулымі гадамі. Палепшыліся і ўмовы навучання. А студэнты ёсць розныя. Некаторыя хочуць вучыцца, а некаторыя ставяцца так: "абы скончыць".

**Яўген Гадлеўскі, часова беспрацоўны:**

– На нармальным узроўні. Дзецям даюць патрэбную адукацыю. Ды і камп'ютарызацыя добра ўплывае. Хаця ёсць тут і адмоўнае, калі, напрыклад, дзеці сцягваюць у інтэрнэце даклады, а не пішуць іх самі. Лепш бы сядзелі ў бібліятэцы ды чыталі.

**Ніна Паўлава, пенсіянерка:**

– У параўнанні з тым, што было ў мой час, то, канешне, нізка. Мала класікі. Мала вучаць на памяць, што вельмі яе развівае. Калі я памятаю Яўгена Анегіна і пачатак ліста Таццяны, то нашы дзеці ўжо не памятаюць. Але добра, што ў школах размежавалі гуманітарыяў і фізікаў-матэматыкаў.

**Наталля Жыжэмская, памочніца выхавальніцы:**

– Нармальна. Адукацыю даюць добрую. У школах усё створанае для таго, каб моладзь магла атрымаць веды. Для мяне ў гэтай сферы ўсяго хапае.

**Апытанне падрыхтавала Настасся РОЎДА.**

Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6250 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 18 (940) 3.05.2013.
Друкарня ТДА "Знаменне". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 363. Падпісана ў друк у 10.00 2.05.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.